# ЛАСТАЎКА.

ЗБОРНІК ВУЧНЕЎСКІХ ТВОРАЎ
Дзяржаўнай Люцынскай Беларускай Гімназіі
У ЛАТВІІ.

За 1923-1924 вучэбны год.





1924.
Выданьне Гімназіі.
Люцын.

# ЛАСТАЎКА.



ЗБОРНІК ВУЧНЕЎСКІХ ТВОРАЎ
Дзяржаўнай Люцынскай Беларускай Гімназіі
У ЛАТВІІ.



---

За 1923-1924 вучэбны год.







1924.
Выданьне Гімназіі.
Люцын.





**Мікалай Якаулевіч**
**НІКІФАРОУСКІ.**
(Гадзіўся ў 1844 годзе, а памёр ў 1910 годзе).

Вядомы на ўсю Вітабшчану і далёка па за яе межамі неўтамімы зьбірач беларускай народнай славеснасьці, а наш зямляк, Мікалай Якаўлевіч, сабраў шмат матар'ялаў па беларускай этнаграфіі, частка якіх выдадзена ім самім, а большасьць этнографам гр. Шэйнам і Расейскай Акадэміяй навук.

Быў дужа здольны і да беллетрыстыкі. З яго працы асабліва цікавы й важны:

1, „Нарысы простанароднага жыцьця-быцьця ў Віцебскай Беларусі і апісаньне рэчаў штодзённага ўжытку." Віцебск, 1895 г.

2, „Простанародныя прыметы і забабоны." Віцебск, 1897 г.

3, „Нарысы Віцебскай Беларусі" 1892-1897 г.г.

Радня Мікалая Якаўлевіча жыве да гэтага часу ў Старой Слабадзе Істрэнскай воласьці, а двое яго племяшоў і адна пляменьніца працуюць настаўнікамі ў беларускіх пачатковых школах у Латвіі.

## Працаунікам, чытачам і прыхільнікам „Ластаукі“.

Год таму назад зьявілася першая думка пачаць друкаваньне ў Латвіі беларускае вучнёўскае часопісі.

Падлічылі сілы.—Сілы—знайшліся!

Падлічылі сродкі.—Іх—не адшукалася!

Рана яшчэ, відаць, было прыступаць да друкаванага беларускага вучнёўскага слова.—Не па сродкам!

Але цяжка было разлучацца з добрай думкай, ды і трэба было даць выхад творчай энэргіі й нахілу да літэратурнай працы, што праявіліся ў некаторых вучняў.

І вось надумалі вучні друкаваць сваю часопісь уласнымі сіламі—на шапірографе. У траўню месяцу 1923 году выйшаў 1-шы нумар вучнёўскага штомесячніка Люцынскай Беларускай Гімназіі „Ластаўка“. Скромненькае было пачынаньне. Шапірограф патрабаваў шмат працы, а даваў усяго 30—35 экзэмпляраў. Аднак труднасьці ня спынілі вучняў. За год працы выйшла ўжо 10 нумароў (у часе канікулаў „Ластаўка“ не выходзіла). Сабралася цэлая кніжачка матар'ялаў.

Каб пазнаёміць шырэйшае беларускае грамадзянства з нашымі літэратурнымі спробамі, пастанавіла Пэдагагічная Рада Гімназіі выдрукаваць, з першых 10 нумяроў „Ластаўкі“ лепшыя творы і рабіць кожны год адно гэткае выданьне, даючы пасьля дзесяці шапіраграфічных адзін друкаваны зборнік „Ластаўкі“.

Шчыра жадаю ўсім пачынаючым супрацоўнікам штомесячніка „Ластаўка“ ўбачыць усе свае творы ў будучым чарговым друкаваным выданьні зборніка.

Ад душы вітаю тых, чые творы зьмешчаны ўжо ў гэтым сшытку, і маю крэпкую надзею ў будучыне бачыць іх на аркушох вялікіх беларускіх выданьняў.

Чытачоў і прыхільнікаў прашу з ласкавай цярплівасьцю спаткаць памылкі маладых аўтараў, не крытыкаваць дужа сурова іх першыя спробы і аказаць маладому пачынаньню грашовую дапамогу.

К. ЕЗАВІТАЎ.

Кіраўнік Гімназіі.

14. IV. 24.
Люцын.

## ПЕТРА МАСАЛЬСКІ.

Першыя творы у вершах.

ооооооооооооо

### I.

### Я вольны сын неба!

Я вольны сын неба! Сакол я свабодны!
Мне цяжкіх зялезных ланцугаў ня трэба!
Хоць я і радзіўся з нядолі народнай,—
Сакол я свабодны! Я вольны сын неба!

Я веру ў свабоду! Я веру у шчасьце!
Жадаю яго я сваёму народу!
Ня век панаваць будзе намі няшчасьце,—
Я веру у шчасьце! Я веру ў свабоду!

Дарогу мне к сонцу! Дарогу к свабодзе!
Стучыцца ўжо шчасьце к маёму ваконцу!
Лячу абуджаць я надзею ў народзе,—
Дарогу к свабодзе! Дарогу мне к сонцу!

20 Студзеня 1923 г.
Люцын.

### II.

### Покліч.

Гэй, сільныя духам, сыны Беларусі,
Час кінуць ад гора стагнаць!
Ня плакаць ды енчыць, ня гнуцца ў прымусе,—
А птушкай трэ' ў неба сягаць!

Калі доля лепшая нам не даецца,
Дык рукі ня трэба спушчаць!
Калі з нас Фартуна, як з дурняў, сьмяецца,—
Фартуну за чуб трэба браць!

Дык гэй-жа ў магутную стаю злучайцесь,
Ўзьнімайцеся ўвысь сакалом!
За лепшую долю адважна змагайцесь,
Кідайцеся ў бойку з арлом!

17-га Кастрычніка 1923 г.
Люцын.

## III.

## Песьня крывічоў.

Узяўшы свой сьцяг вольны ў рукі,
Ідзі Беларусь бараніць!
Даволі цярпелі мы мукі,
Даволі ўжо кроў нашу піць!

Гэй сьмялей,
У бой хутчэй,
Крывічы ўдалыя!
Разьвярні,
Пакажы
Сілы маладыя!

Ты сей між братоў сваіх згоду,
Да сьвета і знаньня вядзі,—
Каб шчасьце здабыць для народу,—
Ў змаганьне адважна ідзі!

Гэй сьмялей,
У бой хутчэй,
Крывічы ўдалыя!
Разьвярні,
Пакажы
Сілы маладыя!

Ськідай - жа з плячэй ты няволю,
Сілы цемры ськідай - жа хутчэй,
Ў жыцьці новым забудзеш нядолю,
Зажывеш ў сваёй хаце лягчэй!

Гэй сьмялей,
У бой хутчэй,
Крывічы ўдалыя!
Разьвярні,
Пакажы
Сілы маладыя!

12 Сакавіка 1924 г.
Люцын.

## IV.

## Сыну Беларусі.

Слаўны сын Айчызны,
Да працы ідзі!
Ворагу адважна
У вочы глядзі!
Пакажы ты сьвету
Усю моц сваю;
Дакажы, што любіш
Родную зямлю.
Што жывеш і церпіш
Ўсё жыцьце сваё,
Што ўжо надаела
Чужынца ярмо.
Пад чужой уладай
Доўга ты гібеў;
Але не загінуў,
А моўчкі цярпеў.
Але і цярпеньню
Ўжо прыйшоў канец,—
Насіць надаела
Цярновы вянец
Дык хутчэй да працы,
Беларусі сын!
Не прасі апекі,—
Пражывеш адзін!

20 Лютага 1924 г.
Люцын.

## V.

## Будзь гатоў!

### Ахвяравана 63-му Беларускаму Скавуцкаму Адраду.

Бараніць свой гонар, праўду,
Скавут, будзь гатоў!
Не ганбіць сям'і каб шчыльнай
Скаўтаў--братоў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў,
будзь гатоў, будзь гатоў,
будзь гатоў!
Заўсягды гатоў!

За край родны--Беларускі
Ўмерці будзь гатоў!
Век шануй звычаі, мову
Слаўных крывічоў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Для людзей ўсіх быць карысным,
Скавут, будзь гатоў!
Ты кахаць усіх павінен,
Як сваіх братоў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Быць братом да іншых скаўтаў
Будзь ўсягды гатоў!
Хай дэвізам нашым будзе,
Дружнасьць да сяброў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Выпаўняць загады старшых
Будзь ўсягды гатоў!
Не шкадуй для сьветлай працы
Часу і трудоў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Быць у думках, дзеле чыстым
Будзь ўсягды гатоў!
Не палі, ня пей, ня слухай
Ты сварлівых слоў.

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

У цяжкі час ня падаць духам,
Скавут, будзь гатоў!
Больна - сьвісьні, цяжка -- сьмейся,
Будзь вяселым зноў!

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г.д.

Будзь уважлівым да хворых,
Малых, старыкоў;
Быць паслужным да кабетаў,
Скавут, будзь гатоў!

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Быць працоўным, бережлівым,
Скавут, будзь гатоў!
Будзь гатоў грашмі і працай
Выручаць братоў!

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

Бараніц усе жывое,
Скавуг, будзь гатоў!
Ня губі ты без патрэбы
Птушак і зьвяроў!

Прыпеў: Будзь гатоў, будзь гатоў, і г. д.

## VI.

## Годзе!

Ты не кажы мне аб праўдзе, аб згодзе, —
Б чым мы згоду на карках сваіх!
Будзе ўжо славы крыўдзіцелям, — годзе!
Досіць цярпелі ўжо ворагаў злых!

Лепш ты скажы мне дзе згінула слава?
Гонар Айчызны дзе зьнік?
Лепш разкажы што пяяў нам бывала,
Шабляй зьвіня, лесаўчык?

1 Студзеня 1924 г.
Люцын.

Вучань II клясы Гімпазіі.



ВАЛЕНТЫНА КАЗЛОЎСКАЯ.

Першыя творы у вершах і прозе.

## I.

## Лета.

Ніва з ветрам шапаціцца,
Бы' аб нечым гаманіць,
Ўся, хвілюючыся морам,
Каласкі к зямлі туліць.

Ходзюць хвалі ўдоўж па полю;
Усплываюць васількі;
Ветрык, лашчучысь, цалуе
Збажынкі сьпелай каласкі.

Гдзесьці там,— ў праменьнях сонца,—
Ў небі жаўранак пяе,
І, як нейкі пан заможны,
Клякоча бусел на гнязьдзе.

Гай зялёны ў задумленьні
Думку думае сваю. . .
Да,— прыгожае ты, лета,
Ў нашым бацькаўскім краю!

## II.

## Ночка.

Блішчаць вянкі дрыжачых зорак ў небі.
Скрозь хмаркі месяц на землю глядзіць.
І ветрык, нешта засмуціўшысь,
Ў паветры ціхім ня гудзіць.

Журчыць ручэй срэбранаю струною
І брыжжа пэрламі ў паснуўшую траву.
Аб нечым шапаціць бярозка маладая.
А птушкі ўжо паснулі у лясу.

На цепенькай алешніка галінцы
Вось, раптам, запяяў паўночнік-салавей . . .
І сумна неяк мне,— і радасна на сэрцы.
І ночка — хараша, й — дня хочацца хутчэй!

# У калядны вечар.

—„Дзяўчаткі, родныя, да-душы гэта ўсё няпраўда!“—шаптала Гэлька, адцягіваючы ад стала ў кут Касю з Марыськай.



—„Вось што я ведаю, дык тое—праўда! Далібог праўда!“ — і Гэлька нешта часьценька пачала казаць ў паўголаса.

—„А вы што тут?—Ага-цю!“ гаркнуў ва ўсё горла, падкраўшыся да іх, хлапец.

— „Міхась! А бадай цябе воўк,—як напужаў!“—так і падскочыла Гэлька“.

„І трэба-ж гэта падслухіваць? Ах, каб цябе ліха!“ — усердзілася Марыська.

Дзяўчаты адыйшлі ізноў да столу. Але Міхась пачуўшы іхнія размовы, нешта сьцеміў:

—„Ну і напужаю-ж!—Да ўсякай варажбы ахвота прападзе!“— сказаў ён сам сабе і таксама падыйшоў да столу.

Ля стала сядела якіх з дваццатню дзяўчат з хлапцамі. Вялась гутарка аб тым: якую зараз паспрабаваць варажбу. Ўжо і ў жорнах іголку малолі, й чаравікі за вароты кідалі й пеўня круцілі.—Болей, здаецца, нечага.

Іш,—сядзяць, рукі сашчапіўшы,—давайце вокскліць!“ — крыкнула Гэлька, падыйшоўшы да столу.

—„Ну—воск, дык—воск.“

Не адыйшло й паўхвіліны, як дзяўчаты ўжо прынясьлі міску вады, васковую сьвечку й старую бляшаную лыжку.

—„Ты-ж уперад задумай што!“—настаўляла яе Кацярына.

—„Ці памру я гэты год?“—сказала Гэлька, падыймаючы вочы ў гару.

—„Лій ужо, лій! Ды раптам!—Бордзенька!“—пачулася са ўсіх бакоў.

Гэлька павярнула лыжку. Воск засіпеў і затрашчаў, разьліўшыся па вадзе.

—„Ах—ей, а як ды—крыж?..“

—„Хай Бог бароніць ад гэтага...“

—„Дзе табе ўмерці,—мясаедам вясельле згуляем!“..— гудзелі наўкола галасы.

Гэлька падняла зьлітак паміж лямпай і сьцяной. Ўсі з цікаўнасьцю пачалі яго разглядаць.

—„Ну, ці-ж не мая праўда?—Вось і выйшлі коні! Дадушы!“ Ну-ж і рэзну лявоніху на Гэльчыным вясельлі!“



—„Ай-ей, сястрыцкі,—труна! —Ой, ліха маё!“— ажна пабялела Гэлька.

—„Якое табе труна?—Тутака ступа, ці яшчэ нешта.“

—„Гэта-ж, дзеванькі,—сноп! —і сярпок вось дзе,“ — казала ў нейкім задаваленьні Гандзя, торкаючы пальцам у сьцяну на сьцень нейкай крывулькі.

Варочалі воск з усіх бакоў. Усё, на выгляд дзяўчат, суліла Гэльцы долю гаспадыні.

І доўга яшчэ воск лілі ды пералівалі. Асаблíва дзяўчат гэтая варажба дужа цікавіла. Калі ліеш у ваду, раптам робіцца неяк гэтак страшна, што ажна рука трасецца й дух сьпіраець: крый Божа, ды яшчэ на смерць пакажаць!— А ў канцы, пасьля добрага тлумачэньня будучыны, нейкае задаваленьне самім сабой і прыемны гэткі спакой находзіць. Часам-жа выйдзе нешта гэтулькі сьмешнае, што на хаце чуць ня цэлую гадзіну стаіць вясёлы рогат і жарты.

Але Гэльцы нешта не сядзелася на мейсцы. Было відаць што яе цікавіла нешта іншае. Таўхануўшы лакцём пад бок Марыську, яна падмігнула Касі, і ўсе трое выйшлі з-за столу.

—„Куды-ж вы, дзяўчаткі?—Пасядзіце!“

—„Не,—нешта спаць ужо хочацца. Ды ўжо й запраўды позна,—хутка калядоўшчыкі пойдуць.—Бывайце здаравенькі!“—І дзяўчаты выйшлі за дзьверы.

Міхась, троху пачакаўшы, пакрысе адцёрся ад стала, і таксама выйшаў за дзьверы з - заду за імі.

Ў сянёх, каля дзьвярэй на вуліцу, чуўся Гэльчын шэпат:

—„Ну, дзяўчаткі, бяжым да Лаўруковай лазьні, гэта—бліжэйшая. Вось тутака дык запраўдашняя варажба! Дзядзіна старая і то казала, што праўда!“

—„Ну, бяжым!..“

—„Дзе?—ці гародам, ці вуліцай?“

—„Вуліцай, бо гародам сьнегу многа!“

Дзяўчаты, крадучыся, выйшлі з сяней і хутка праз двор пабеглі на вуліцу. Міхась выскачыў з - за дзьвярэй і гародам, колькі мага, пабег да Лаўруковай лазьні. Ажна запыхаўся, як бег. Некалькі разоў быў увязшчы ў сьнягу, але да лазьні дабег першым і, з-размаху, ўскочыў праз дзьверцы.

—„Ах, каб цябе гаручка!“ ажна зругаўся Міхась, з усёй сілы ляпнуўшыся галавой аб палок, „ажна ў вачох замітусілася!“ Але не адыйшло й хвіліны, як Міхась ужо сьмяяўся, выяўляючы сабе, як спалохаюцца дзяўчаты.

Чакаць яму прыйшлося ня доўга. Хутка каля лазьні пачуўся скрып сьнегу і шэпат.

—„Марыська, ты пачынай! Сунь руку ў ваконца: калі ўхвацісься за што шарпатае, дык—увесь век багатай будзеш, а калі за гладкае, дык—у беднаце будзеш біцца.“

—„Далібог, сястрыцкі, баюся! Ты ўпярод!“

—„Во—дурная! Ну ты, Кася!“

—„Не—ты ўперад, а я пасьля!“

—„Ну, калі так, дык я першая!“—І з гэткімі словамі Гэлька прасунула руку ў ваконца. Раптам як крыкнець, быццам ашалеўшы:

—„Дзяўчаткі родныя, а ратуйце!—нехта трымаець!“ І затрапяталася, як падстрэленая птушка, сілючыся выцягнуць з ваконца руку. Але дарма,—з таго боку яе руку моцна трымаў Міхась, ажна давючыся ад сьмеху.

—„А, дзяўчаткі, а' ратуйце!“—галасіла Гэлька. А Кася з Марыськай, ва ўвесь дух ужо ляцелі па вуліцы.

Нацягнулася Гэлька са ўсёй сілы і вырвала руку. У Міхася са сьмеху ўжо ажна і сіла зьгінула. Ускочыла варажбітка і пабегла, як шалёная, да хаты. А Міхась доўга яшчэ рагатаў, ідучы з лазьні.

З тэй пары зьнікла ў Гэлькі ахвота да варажбы.



  

## Зіма.

Ў белай сьвітачцы Зіма,
Ў хустачцы з туманаў
Прыляцела на вятрох
З палуночных странаў.

Куды павернецца чалом, —
Задуюць буйны ветры;
Махне шырокім рукавом, —
Заўецца сьнег ў паветры.

Пакрыла Матку - Беларусь
Ўжо белай пеляною;
Надзела з пэрлаў ёй вянец
Лядзянаю рукою.

У новай вопратцы наш край
Мо, шчасьлівейшы будзе,
Ўздыхнуць свабоднымі грудзьмі
Яго бяздольны людзі.

# „Падкурыла."

—„Дзень добры, сваціњка! — Як маешся?"

—„Нічога, родная. Бог беражэць. Адно толькі—пешта з маёй Лысухай зрабілася."

—„А што-ж такое?"

—„Ды, вось, пачала аж ад Пятровак у малацэ ўбываць. Паглядзець, і ісьць, і вясёлая . . . З чаго-ж бы ёй гэта?"

—„З глазу, родная, з-глазу! Было некалі і маёй Рабай гэтак здарыўшыся. Але сыйшла я да варажбіткі, тая дала мне нейкага зельля; я ім як падкурыла сваю Рабаху, дык у добры час кажучы ўсё як рукой зьняло. Ты-б, Сьцяпанаўна, паспрабавала-б сыйсьці да яе!"

—„Але, але, Кацярынка, заўтра раніцай і папляцуся. Дзякую за добрую параду!"

—„Няма за што, родная! Як суседке ў бядзе не памагчы!"

—„Усяго найлепшага, Сьцяпанаўна!"

І сваецьці разыйшліся, ціха пазьвяківаючы поўнымі вёдрамі.

На другі дзень, ледзь сонца здолела ўзыйсьці з-за лесу, як Сьцяпанаўна ўскруцілася і пабегла да варажбіткі.

Дарогі было вёрст з восем.

Варажбітка была старэнькая бабка. Ёй было ўжо пэўне каля сотні гадоў. Яна ўжо ледзь магла хадзіць і болей сядзела на сонцы, укруціўшыся ў драную кажурыну.

У тую часіну, калі накруцілася да яе Сьцяпанаўна, варажбітка сядзела каля вакна.

—„Пахвалёны Езус!"— сказала Сьцяпанаўна і, сагнуўшыся, ледзь пралезла праз дзьверы.

—„На векі, родная! Сядай, калі ласка, ды кажы ў чым справа твая!"

—„Некалі сядзець, ягадзінка,—за дзелам да цябе прыцягнулася.“

—„А што-ж тамака ў цябе такое здарылася?“

—„Ды, вось, кароўка нешта захварэла. Ад самых Пятровак пачала нешта ў малацэ ўбываць. Кажуць, ты памагаеш ад гэтага. Мне й параілі да цябе сыйсьці.“

Як не памагчы, сястрыца? Гэта-ж у ёй пэўне ад глазу. Але ты нятужы:—тваёй бядзе дадзём раду. Вось табе троху кветак купальскіх. Ты іх у чарапочку распалі ды й падкуры сваю кароўку,—рукой соймець!“

—„Ўсё зраблю, як кажаш. Ўжо я й цябе не забуду: калі там малачка, ці масла троху...“

—„Дзякую, дзякую!“

—„Ну, бывай здарова, пайду ўжо да хаты.“

—„З Богам, родная,—няхай памагаець Матачка Найсьвеншая!“

Прыдыбала Сьцяпанаўна да хаты. Ледзь дачакала яна, пакуль апоўдні прыйшла з поля жывёла.

Зьвярнуўшыся ў хату, яна награбла з ямкі жару ў чарапок і пайшла ужываць варажбіткіну раду. Упіхнутая ў чарапок трава, хутка загарэлася. Па хляву пайшоў густы смуродны дым.

—„Ну, ўжо пэўне паможаць, бо ўжо дужа ёмкі“—разважала Сьцяпанаўна моршчучыся й цярабючы вочы ад дыму.

Ўжо курыла, курыла яна сваю кароўку, ажна ў канец і самой няўмагату стала.

—„Хай троху пастаіць у дымку, скарэй прайдзе“—падумала Сьцяпанаўна, вылазючы з хляўка. Шчыльна прычыніўшы дзьверцы, яна пайшла ў хату.

Праз колькі хвілін Сьцяпанаўна ўздумала паглядзець Лысуху. Пайшла і, разчыніўшы дзьверцы, ледзь-ледзь не самлела.

Ўся салома гарэла яркім полымем. Ад едкага дыму нічога ня было відаць.

—„А мая-ж ты каровухна“—загаласіла Сьяпанаўна і кінулася ўперад, але агонь ужо перакінуўся на страху. Сьцяпанаўна ледзь здолела адтуль выскачыць.

А Лысуха так і згарэла, падкураная разумнай гаспадыняй.

---



# Лягенда аб Люцынскім замку.

Паміж двух вазёр, на высокай гарэ, высюцца руіны старога Люцынскага замку.

Здаецца, упіраючыся ў самае неба, стаіць гэты нямы сьведка прошласьці, глядзючыся з нейкай гардзялівай сумпасьцю ў ціхія воды возера.

А возера, лашчучыся, б'ецца каля самага берагу нібы кажучы:

„Тайну тваю—ведаю!—Ўсё жыцьцё тваё—памятаю! — Але маўчу!—маўчу!

Хай—я, да ты,—хай толькі мы ведаем, а больш ніхто й ніколі не даведаецца нічога!"

Цёмнаю ноччу,—калі ўсё навокала старога замку глыбока пасьне,—ня толькі людзі, але, здаецца, й птушкі даюць кругу далёка—далёка. . .

Дык, паслухаем, якая слава жыве ў народзе пра гэтыя, мохам паросшыя, муры.

---

З падзякай адмечаемо, што кліша Люцынскага Замку, з ласкавай згоды гр. І. Сойкіна, атрымана ад Люцынскага Латгальскага Культурна-Прасьветнага Таварыства.

* *
*

Даўно—даўно, калі нашыя дзяды жылі па лясох,ды маліліся драўляным багам, з далёкае Нямеччыны прыйшло ў наш край войска крыжакоў, так званы „Лівонскі Ордзен."

Магістар гэтага ордзену й пабудаў сабе Люцынскі замак.

Было ў яго тры дачкі. Старшая—Люцыя была сірата, бо першая жонка магістра памёрла. Дзьве малодшых—Марыя і Разалія—былі ад другой жонкі. [1])

Што й казаць колькі вытравала бедная Люцыя ад сваёй мачыхі! Ей, нават, і пажаліцца ня было каму. Бацька,— суровы гэрманец, увесь аддаўшыся сваей мэце—„пашырэньню рымскае царквы", на дачок не зьвяртаў ніякай увагі. Вядучы ўвесь час вайну проці насельнікаў гэтага краю, ён зусім мала калі бываў у замку.

А Люцыя, як кветка рожы, цьвіла сярод таўстых сьцен замку.

Многа ўжо паглядаў узірала на яе з затаенным каханьнем. Многа ўжо знатных баронаў і рыцараў сваталася да Люцыі.

Але—дарма!—Яна ўсім адмаўляла. Думкамі яе валадаў толькі прыгожы рыцар з дружыны бацькі. Толькі адзін чарнабровы Альбэрт узіраў у яе сумныя блакітныя вочы.

Калі сойдуцца яны дзе, бывала, цішком,—толькі й радасьці было ў жыцьці Люцыі.

Даўно ўжо пакляўся Альбэрт, што лепш складзе сваю галаву ў цяжкой барацьбе з нявернымі, чым зьменіць ёй,- сваёй прыгожай Люцыі. Таксама й яна казала, што лепей пойдзе ў манастыр, лепш згіне са сьвету, чым палюбіць каго другога.

І доўга яны гэтак таемна кахаліся.

---

[1]) Па другім весткам, ходзючым ў народзе, Люцыя, Марыя і Разалія былі дачкамі не вышэйназванага магістра, пабудаваўшага Люцынскі замак, а ўдавы валадара Рэпкенбергскага замку (ў Рэжыцкім павеце), якая перад сваёй сьмерцю падзяліла свае землі паміж сваімі дачкамі. Кожная з дачок пабудавала на сваёй зямлі замак: Люцыя - Люцын, Марыя - Марыенгаўзен, (цяпер - мястэчка Люцынскага павету), Разалія - Розітэн (цяпер - горад Рэжыца). Руіны гэтых замкаў захаваліся да гэтага часу. Па гэтым - жа весткам Люцыя была ня падчаркай валадаркі замку, а яе млашай дачкой; старшай - жа была Разалія.

Увага П. Массальскага.

Але, неўзабаве, прыяжджае да Люцыі ў сваты вялікі Маскоўскі Цар „Іван Грозны“ [1]:

Магістар з жонкай адразу згадзіліся на гэтае сватаньне. Але Люцыя адказала, як і даўней адказывала ўсім. Яна засталася вернай свайму Альбэрту.

Гэтае непаслухменства дачкі, чаго даўней было дужа мала, надта ўсердзіла магістра з жонкай.

Іван Грозны, таксама дужа нездаволены адмовай, на другі дзень, ледзь сонца ўзыйшло, выехаў з замку.

„Як,—думаў ён,—няўважаць мяне. Мяне—вялікага Маскоўскага Цара?!. Але дарма!—Ня хоча дабром,—сілай вазьму! А за няўвагу—забяру ўвесь гэты край аж да самага Балтыцкага мора!“

Беднай Люцыі пачалося жыцьцё яшчэ горшае. Ей цяпер нельга было пабачыцца з Альбэртам, бо мачыха не выпушчала яе з вежы.

Зьнікла апошняя зорка, якая асьвятляла Люцыі яе сумнае жыцьцё.

У хуткім часе пыхнула вялікая Лівонская вайна.

Сам Іван Грозны са сваёй вялізарнай дружынай пачаў абложэньне Лыцынскага замку. Доўга цягнулася аблога, бо добра быў узмацаваны замак старога магістра.

Але, як раз перад усходам сонца, на Вялікдзень, урвалася маскоўскае войска праз таўстую браму замку.

Мачыха, ўбачыўшы, як хутка гібне дружына магістра, страшным голасам прагукала да Люцыі:

„Згінь вось на гэтым мейсцы! З-за яе трэба ўсім гінуць, а яна будзе красавацца ў палацах маскоўскага цара! Але, не!—Дарма! не будзе гэтага! Праклінаю! Згінь!“

Ледзь пасьпела яна гэта прагукаць, як шуганула з-пад зямлі сіняе полымя й зьнікла ў ім бедная Люцыя.

А маскоўцы ўжо ламіліся ў дзьверы.

---

[1]) Гэтае мейсца сьведчыць аб тым, што гістарычныя падзеі з часам перапутляюцца ў народнай памяці. Дзьве гістарычныя асобы: закладчык замку--Магістар Веннемар-фон-Брюгенэ й Іван Грозны былі памятны народу, як парабаціцелі гэтага краю, абадвы яны крывавымі плямамі яшчэ й цяпер стаяць у вачох народу. Але з часам яны перасьпэктыўна ўходзюць ў мінуўшчыну і, ня гледзючы на тое, што кожны з іх жыў у розны час (фон-Брюгенэ жыў у канцу XIV-га й пачатку XV-га веку, тады як Грозны жыў у XVIII веку), яны зьліваюцца ў адно.

Увага П. Массальскага.

Спусьцілася грэшніца-мачыха ў падзёмны ход-лаз, а за ёй слугі панясьлі самлеўшых дачок.

Хутка ўжо мачыха была далёка ад замку, над якім ужо вісела хмара дыму ад запаленых амбараў, ды віўся шэра-жоўты пыл ад разьбітых сьценаў.

Ад чорнага зладзейскага пракляцьця пацямнела абуранае неба, схавалася за хмары сьветлае сонца й заплакала буйным дажджом, а разхваляваныя вазёры глуха рычэлі й з двух бакоў ірваліся да замкавай гары, закідываючы яе цяжкімі хвалямі, фантанамі брызгаў і гарамі бязьсільнай белай пены.

Пракляцьце цяжка павісла над замкам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Разьбілі маскоўцы замак, а Люцыі не знайшлі.

* *
*

Многа гадоў працякло з таго часу, як гэта ўсё было.

Ужо разрытыя сьцены замку парасьлі зялёным мохам, а на высачэнных вежах вырасла вялікая трава і пачынаюць ужо расьці маленькія бярозкі, але народ ня можа забыцца страшнай мінуўшчыны й з роду ў род, ад бацькі да сына перадае старое прэданьне.

* *
*

Змалку наслухаўшыся гэтых баек, адзін салдат, Антон, задаўся мэтай вызваліць Люцыю ад закляцьця.

Выбраўшы падхадзячую часіну, Антон пайшоў на замак.

Было ўжо зусім цёмна.

Рэзкі сьцюдзёны вецер гнаў па небу цяжкія чорныя хмары.

Калі-не-калі бледны месяц усплываў на небі й раптам, быццам спужаўшыся жудаснага надвор'я, зноў хаваўся.

Вялікая й Малая Лужа [1]) з гулам нясьлі свае хвалі кудысьці ўпярод і ўпярод.

Антон узыйшоў на гару.

Зрабілася неяк страшна. Па сьпіне прабег мароз.



[1]) Так завуцца ў Люцыну два возера.

„А чаго баяцца?“—падумаў Антон і аглянуўся. Раптам ён ледзьве ня крыкнуў ад перапугу.

У паўночным куце замчышча стаяла нейкая чорная хмарка.

Антон падыйшоў крыху бліжэй.

Раптам пыхнула з-пад зямлі сіняе полымя й з яго выйшла нейкая белая хвігура.

Антон, ня змогшы асіліць свайго страху, павярнуўся бягчы, але пачуў воклік.

„Ня бойся! Гэта я, я—Люцыя, гаспадыня гэтага замку!“

Антон затрымаўся.

Ціхім, магільным голасам пачала Люцыя прасіць выбаўленьня ад чар.

Як зачараваны слухаў яе Антон.

Але вось недзе ўдалі запяяў певень. Прыйшла поўнач. Люцыя са славамі: „Паслухай, выбаў ад чар!“—зноў правалілася скрозь зямлю.

Доўга стаяў Антон, як зачараваны. Усё здарэньне здавалася яму нейкай дзіўнай казкай. Але постаць Люцыі яшчэ нібы стаяла перад вачыма, яшчэ зьвінелі ў вушах яе апошнія словы: „Паслухай, выбаў ад чар!“

Быццам ад нейкага ўнутранога таўчка, Антон раптам устрапянуўся й успомніў, што зараз будзе віднець і што трэба ўжо йсьці да хаты.

Як няпрытомны хадзіў Антон увесь гэты дзень.

„Як яе ратаваць? як дапамагчы?“—білісяў яго галаве неспакойныя думкі. Доўга ня ведаў Антон, што рабіць?

Але ў канцы рашыў зноў пайсьці ў чарговую ноч на замак.

Быў Чысты Чацьверг. У паветры разнасіліся зыкі касьцельнага звону. Ў прыродзе ўчорашняе жудаснае начы не засталося й сьляда. Скрозь тоўпы прыгожых хмарак паглядалі вянкі дрыжачых зорак. Вялікая й Малая Лужа ціха плёскаліся, лашчучыся каля замкавай гары.

Нейкім жудасным трэпетам абдало Антона, як ён узыйшоў на гару.

З цяжкай думкай у галаве пачаў ён хадзіць каля замкавых мыроў. Роўна ў поўнач у паўночным кутку замку зноў забялела постаць Люцыі й абамлеўшы Антон зноў пачуў голас:

—„Праз два дні надойдзе такая часіна, калі я раз у год магу збавіцца ад чараў. Гэта будзе на Вялікдзень.“

—„Скажы, што рабіць? Як цябе вызваліць?“—ледзьві прагукаў да яе Антон.

—„На зарэ, як скончыцца набажэнства ў касьцёлі, прынясі сюды крыж і сьвянцонае яйко.“

—„Добра, зраблю!“—усхапіўся Антон з нейкай радасьцю.

—„Але,—глядзі! шмат розных здарэньняў убачыш ты на дарозе, але не чапай іх і не адварачывайся ні ў які бок. Ведай,—што толькі тады спадзе з мяне й з гэтых муроў страшэннае пракляцьце. Ідзі, дарагі чалавек, і моцна памятуй: не адварачывайся, што-б табе ні здавалася!“—з гэтымі славамі Люцыя зноў праваліілася скрозь зямлю.

З нейкай радасьцю ў сэрцы Антон пайшоў да хаты.

Ледзь дачакаўся ён тэй часіны, калі людзі адзін за адным пацягнуліся да касьцёла.

З нейкім асаблівым пачуцьцём маліўся, ўкленчыўшы, Антон перад лікам Прачыстае Дзевы.

Але, вось, астатні раз завурчэў арган і сьціхлі, расплыўшыся паміж таўстых сьценаў, яго прыгожыя зыкі.

Прышла тая гадзіна, якую так чакаў Антон. Паклаўшы ў кішэнь чырвонае яйко й моцна сьціснуўшы ў руцэ крыжык, ён выйшаў з касьцёлу.

На ўсходзе ярка гарэла зара, абліваючы сваім ружовым блескам увесь небасхіл. Антон хацеў ужо падыймацца на замкавую гару, але раптам зьдзіўлёны стрымаўся. Ад касьцёлу спускалася ўніз сьвяточная працэсія.

Стройнымі радамі нясьлі дзяўчаты белыя дрэўкі харугваў. У паветры вілася іх белая вэль. Уперадзі йшоў мужчына, нясучы вялікі крыж.

Вось параўнялася працэсія з Антонам. Папярэдні мужчына, прывітаўшы Антона, хацеў з ім пацалавацца, але ў думку Антона раптам уплылі словы Люцыі:

—„Шмат розных здарэньняў убачыш ты на дарозе, але не чапай іх і не адварачывайся ні ў які бок.“

Антон бордза адвярнуўся й хутка пабег на гару. Працэсія пайшла далей і зьнікла ў туману раньніцы.

З палягчэньнем уздыхнуў Антон і азірнуўся.

—„Божухна! што гэта?“—Прама наўпроці яго стаяў камандзір з перакошаным ад злосьці тварам.

—„А ты, ёлуп,—чаго тут цягаешся?“—накінуўся ён на Антона. У таго аж мурашкі пабеглі на сьпіне. Душу абхапіла нейкая магільная сьцюжа. Ен падняў для прывітаньня руку, але раптам спыніўся, ўспомніўшы словы Люцыі.

Камандзір — зьгінуў.

Не пасьпеў Антон зрабіць і пяці крокаў далей, як з варот замку выляцела проста на яго бешаная тройка чорных коней.

Спалохаўся Антон і хацеў адскочыць у бок. Але зноў успомніў словы Люцыі. Зажмурыўся і спыніўся.

Тройка праляцела скрозь яго.

Антон пайшоў далей. Вось ужо стаіць у паўночным куту Люцыя і працягівае да Антона рукі. Антон прыбавіў кроку, але раптам спыніўся: перад ім стаяў сам палкоўнік. Сьціснула дыханьне ў Антонавай грудзі, калі ён убачыў у руцэ палкоўніка таўсты бізун. Забыўшыся аб усім на сьвеце, акрамя таго, як ратаваць сябе, Антон павярнуўся назад і з усяе моцы пусьціўся наўцёк. З замкавай гары пачуўся нейкі дзікі рогат. Люцыя са стогнам зноў зьнікла сярод сіняга полымя, якое абхапіла ўсю паўночную частку замкавай гары.

Праклятыце яшчэ цежалей павісла над замкам.

Запісала
Валентына Казлоўская.

Вучаніца II клясы Гімназіі.



ПЕТРА САКОЛ.

Першыя творы у вершах.

## I.

## Люцынскі Замак.

На крутым берагу адзінокі
стары замак даўно ўжо стаіць;
ён над возерам грозна падняўся
і на сьвет Божы сумна глядзіць.

Вараньнё на ім гнёзды павіла,
між каменьняў трава ўжо расьце,
чорным мохам пакрылісе сьцены,
груда цэглаў у цёмным куце.

У ягоных нагах ляжыць Люцын,
як у бацькі сынок на каленах;
вокны гораду зьяюць агнём
на вячэрняга сонца праменьнях.

Калі-ж выгляне месяц з-за хмар,
калі горад патроху засьне,—
стары замак, як волат, стаіць,
зачарованы ў жудасным сьне.

11 Кастрычніка 1923 г.
Люцын.

## II.

## Хай гром грыміць.

Хай гром грыміць, хай стогне бура,
Хай крышыць горы маланьня,
Хай забушуе грозна мора
І затрасецца ўся зямля,

Няхай наўкол пануе цемра,—
Не напужае нас прымус!
—Хай знаюць ворагі сьляпыя,
Што не загіне Беларус!

27 Лютага 1923 г.
Люцын.

## III.

## Беларускі Сьцяг.

Узьвіўся горда, вольна ў неба
Бела-крывава-белы Сьцяг.—
Ен чыстаты народнай сьведка
І яго цяжкай долі знак.

Ідзі пад гэты Сьцяг прыгожы,
Каму свой родны дораг кут!
Даволі брэсьці ў бездарожжы,—
Трэ' ськівуць путы злых пакут.

Пад Сьцягам гэтым мы адважна
Пазбавім край ад ланцугоў.
Прайдуць вякі і нас уважна
Успомніць грамада братоў.

20 Ліпеня 1923 г.
Люцын.

* *
*

Калі я ірвуся душою да зораў,
І кроў калі ў жылах кіпіць,—
Магутная, сьмелая, вольная песьня,
Як гром, з маіх вуснаў грыміць!

Калі-ж ў маім сэрцы пануюць абіды,
Калі кляну долю сваю,—
Бяру я у рукі забытую ліру
І сумную песьню пяю...

1 Студзеня 1923 г.
Люцын.

Вучань II клясы Гімназіі.



АЛЕСЬ КАЛІШУК.

Першы вершаваны твор.

▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫

## ЛАТВІЯ.

**(Ка дню 5-х угодкау Незалежнасьці Латвіі).**

Была пара.—Латыскі Край
У цемры цяжкай спачывау...
Ліліся пот і кроу ракой
Над скатаванай старaной.

Нямецкі гэрцаг, польскі пан,
Пасьля з „апекаю“ маскаль,—
Усі цягнулісь да Яе,
Прасторы шыручы свае.

Прайшлі вякі,— і дзень настау,
Калі народ з мячом паустау,
Калі падняу свой вольны сьцяг,—
Жаданьня лепшай долі—знак.

Да сьветлай працы, Вольны Край,
Да зор свой сьцяг Ты уздымай!
Ліецца моцна сьпеу хай Твой
Над шчасьцем зьяючай зямлёй.

Верасень 1924 г.
Люцын.

Вучань II клясы Гімназіі.



## ЛЯСНАЯ КВЕТКА.

### Першыя творы у вершах.

ooooooooooooo

### I.

### Напěрад!

Прачхніся, брат! Даволі зьдзеку!
Наперад сьмела ты ідзі!
Загінуць сорам чалавеку.—
„Наперад!“ —сам сабе цьвярдзі.

„Наперад!“—Ўсе жыцьця нанасьці
К сабе ў. сьмяротны бой заві
І,—шчыра веручы у шчасьце,—
Наперад сам сябе вядзі.

Скрозь тоўпы ворагаў, скрозь сьлёзы,
Скрозь мукі цяжкія,—ўпярод!
Хто хоча вольным ў сьвеце жыці,—
Адважным быць павінен тот!

Красавік. 1923 г.
Люцын.

### II.

### Зорка.

Ахвяравана Пятру Сакалу.

Над соннай зямлёю з нябеснай высі,
Скрозь маркотныя хмаркі начныя,
Зорка сумна на гора-няпраўду глядзіць,
Што заліла абшары зямныя.

Цёмна, сумна і страшна наўкол.
Месяц гдзесьці за хмаркі схаваўся.
Ясных зорак нямы карагод
Зьгінуў ў небі, бы' цемры спужаўся.

Цяжка сьпіць і ўздыхае ў пацёмках зямля,—
Прабудзіцца ад гора ня можа.
Толькі зорка, на цемнага неба краю,
Сон маркотны зямлі ўсе трывожа.

Як-бы сьведчыць яна, сярод цемнай начы,
Шматпакутны народ абуджая,—
Што прагляне ўжо хутка над нашай зямлей
Коска першая, ў небі іграя.

Дык сьвяці - жа, прадвесьніца шчасьця зямлі,
Пакуль край прабудзіцца з зарою,
Пакуль наш Беларускі Народ не пайдзе
Ўперад сьветлай, шчасьлівай сьцягою!

## III.

## Пагонь.

Куды так імкнешся ты, Горды Усаднік,
Моцна сьцісьнуўшы меч у далонь?
Мо' славу былую ты хочаш спагнаці,
Сьвятая, Радная Пагонь?

А мо' хочаш да сонца, праз хмары,
Пралажыць Краю Роднаму шлях?
Ці мо' хочаш падняць ўровень з небам
Незалежнасьці Сьветлы Наш Сьцяг?

За табою, Адважны Наш Ўсаднік,
Разрываючы путы і зьдзек,
Ідзе к сонцу, да вольнага сьвету,
Браце наш, Беларус—Чалавек.

На небе радзімым, сярод навальніцаў,
Занялі Сьветлай Праўды агонь;
Здагані, вараці Краю Роднаму Волю,
Сьвятая, Радная Пагонь!

## IV.

## Восень.

Чуеш?—як восень галосіць жудліва!
Як вые ў спусьцелых палёх!
Ель замаркоцілась. Стогне асіна.
Птушкі кружацца і ўюцца ў палёх.

Хмары па небу імкнуцца бяз конца.
Траўка, пажоўкшы, туліцца к зямлі.
Голыя дрэвы плачуць па сонцу.
Змоўклі, зчарнелі сіроткі-лісткі.

Шкода!—Ах,—шкода мінулых дзянёчкаў!
Сэрца сумуе і рвецца кудысь.
Ўзьнялася-б, здаецца, я з птушкамі разам,
Ляцела-б бяз конца уперад і ўвысь!

Вучаніца II клясы Гімназіі.



ЯКУБ ВОРКУЛЬ.

Першыя творы у вершах і прозе.

▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫

## I.

## Родная вёска.

Родная вёска! — як міла ты мне!
Ня бачыў старонкі я, роўнай табе.

Мне мілы бярозкі вясною ў гаю,
Дзе жыў я шчасьліва, як ў сьветлым раю.

Мнё чудзіцца хатка і вёска мая,
Знаёмыя твары, радная сям'я.

Куды страшнылёс не закіне мяне, —
Да сьмерці астанусь я верным табе!

## II.

## Беларусам.

Беларусы,—народзе загнаны!
Ад каго не цярпеў толькі ты?
Хто ня быў над табой толькі панам?
—Ад усіх мы цярпелі, браты!

За людзей нас лічыць не хацелі
І руку нам саромілісь даць,
Уціскалі ва ўсякім нас дзеле,
Прымушалі у крыўдзе маўчаць!

Дык паўстань-жа, Саколе,—ськінь путы!
Падыймі галаву,—вольным будзь!
Досіць зьдзеку, абіды, пакуты!—
Сабе лепшую долю здабудзь!

26—II—24 г.

# Лягенда аб „Літавай гарэ.“

На мяжы Істрэнскай і Нерзенскай воласьці, Люцынскага павету, знаходзіцца высокая „Літава гара“.

Падойм на гэтую гару цяжкі і пакрыты лесам. Калі ўзыйсьці на гару, дык далёка навокала відаць вёскі. У свой чарод і „Літаўка,“ як завуць гару тутэйшыя сяляне, відаць здалёку, быццам вялікі пераверануты звон.

Вось што кажуць аб гэтай гарэ старыя людзі.

* *
*

Даўным даўно па гэтай гарэ стаяў касьцёл.

Раз у час імшы, йшла ў касьцёл маладая дзяўчына. Дзень быў гарачы й сонца пякло бязьлітасна й дзяўчыне было цяжка падыймацца на гару.

Ўзьлязаючы на гару, дзяўчына спатыкнулася й заваліласяя. Пачуўшы боль у зашыбленай назе, яна сказала: „Каб праваліўся гэты касьцёл!“

Ледзь яна прамовіла гэтыя словы, як касьцёл з шумам пачаў апушчацца ў зямлю. Хутка ён зусім праваліўся.

* *
*

Прайшло шмат гадоў.

Людзі ўжо забыліся аб быўшым калісь на гэтай гарэ касьцёлі.

Адноўчы нейкая старэнькая бабка зьбіраючы на гэтай гарэ ягады, ўбачыла ў траве пацеркі ружанцаў. Яна хацела іх падняць, але ўбачыла, што канец іх знаходзіцца ў зямлі. Бабка пачала іх цягнуць, але пацеркі цягнуліся і цягнуліся. Раптам яна пачула, што зямля пачала расхадзіцца пад яе нагамі й убачыла крыж, які быў на страсе касьцёлу. Разам яна пачула голас з зямлі:

—„Цягні, мілая, хутчэй! Ратуй нас!“

Спужаўшыся, бабка выпусьціла з рук пацеркі, заякія яна цягнула. Касьцёл ізноў апусьціўся ў гару.

* *
*

І цяпер яшчэ сярод вакалічных сялян ходзе гутарка, што калі прыйсьці ў нядзелю на гэтую гару ў той час, калі ва ўсіх касьцёлах ідзе імша, й прыкласьці вуха да зямлі, дык можна пачуць гукі аргану й пяяньне хору.

Гэта молюцца людзі літаўскага касьцёлу, каб добры чалавек збавіў іх і выпусьціў на сьвет Божы.

Вучань III клясы Гімназіі.

---

## ГЭЛЕНА ІВАНОВА.

### Першыя творы у вершах.

▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫▫

### I.

### Мяцельная ноч.

Было цёмна кругом.
На дварэ, за вакном,
вецер выў і сьпяваў,—
 весяліўся.

Сьнег ляцеў, вар'яцеў, . . .
Ведзьма, лешы, ці чорт,
Там вясельле спраўляў,—
 ажаніўся.

Весяліся!—Круці!—
Карагод завадзі!
І імчыся кругом
 мімалётным агнём!

Дык,—круці і ляці!
У цёмну даль занясі!
Зноў мяне ажыві!—
 Распалі!—Гэ-э-й ляці!

### II.

### Дзе?..

Дзе мне знайсьці шчасьлівейшую долю?
Шчасьце дзе льецца ракой?
Дзе, пакажыце мне, выйсьці на волю?
Дзе захаваўся спакой? . . .

Не,--не знайсьці мне, гаротнай, спакою,
Век ўжо ня бачыць жыцьця. . .
Час ўжо спакойнай і простай ступою
Сьмела йсьці ў Край Забыцьця. . .

Чуецца голас абразы у сэрцы:
„Мукі за што ты нясеш?
Гінучы ў горы, у злой паняверцы,
Ты за каго жысьць кладзеш?“

Можа у тым, у няведамым краю,
Шлях будзе, мой шчасьлівей,
Там мо' гаротная шчасьце спазнаю,
Там можа жыць весялей!

Вучаніца II клясы Гімназіі.

---

ЯНКА ДОУГІ.

Першыя творы у вершах.

# I.

## Заповедзь.

Заўседы, мой браце, змагайся
За волю народу свайго!
Ніколі яго ня чурайся,—
Аддай ўсё жыцьцё за яго!

Бо только ў змаганьні здабудзем
Мы волю народу свайго,
І вольны тады толькі будзем,
Як ськівем ланцужжа з яго.

Сакавік. 1924 г.
Люцын.

# II.

## Даволі!

Чаму, мае брацьця, ня скажам:—„Даволі
Між крыўды і пошасьцяў жыць!“
Чаму не падоймем Сьцяг Родны за волю,
Жыцьця каб нядолю згубіць?

Дакуль гэта будуць ўсе з нас пасьмяхацца,
Сваімі рабамі лічыць?
Даволі цярпець!—Ўжо пара нам змагацца,—
—Хутчэй сабе волю здабыць!

Змагайцеся, брацьця, рашуча і сьмела,—
Шчасьлівым народ каб зрабіць,
Няпраўду каб зьнішчыць, што над намі вісела,—
Каб лепшай нам доляй зажыць.

Вучань II кляссы Гімназіі.

## Зьмест.





:-: Друкарня В. СУЕРА :-:
Люцын, Вакзальная, № 18. Тэлеф. 65.

